ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№48 (2554)

27 лістапада 1997 г.
Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

*НАЦЫЯНАЛЬНАМУ МУЗЕЮ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ — 40 ГАДОЎ*



## «СТО РАРЫТЭТАЎ З КАЛЕКЦЫЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЕЯ»

— выстава, наладжаная ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Выстава юбілейная. Пра адмысловыя даты — трохі пазней. Найперш — аб прадметах, што экспануюцца на выставе. У залах пануе атмасфера захаплення і пашаны да рэчаў, што, выхапленыя з прыцемкаў скіраванымі на іх промнямі святла, жывуць за вітрынным шклом. Скроневыя кольцы, каралі, бранзалеты, грыўні, манетныя скарбы сваім срэбраным мігценнем нясуць да нас прывітанне з X—XIII стагоддзяў. Узоры мастацкай апрацоўкі металу — абразкі, крыжыкі, складні з перагародкавымі эмалямі — годна спачываюць на цёмным аксаміце. У музейных мурах гэтыя прадметы царкоўнага прызначэння ўспрымаюцца найбольш з пункту гледжання эстэтыкі. Тое ж можна сказаць пра ўсе памяткі дзён мінулых, тут змешчаныя, — зброю, кнігі, фарфор і шкло, музычныя інструменты. Яны вабяць найперш хараством сваіх формаў, фарбаў, майстэрствам выканання.

На выставе знаходзіцца некалькі слуцкіх паясоў у вельмі добрым стане, якія раней нідзе на агляд не выстаўляліся, і таму маем шчаслівы шанц палюбавацца на іх. Тут жа — кубкі, флеты і кілішкі з Налібоцкай і Урэцкай радзівілавых мануфактур, так бы мовіць, у "жывым" абліччы, бо знаёмыя яны большасці з нас па альбомах і паштоўках.

Вагаюся, як назваць творы з калекцыі музычных інструментаў — рарытэтамі ці унікатамі, бо гаворка ідзе пра дзве скрыпкі італьянскіх майстроў. Адну з іх песцілі рукі вялікага Д. Маджыні ў 1596 годзе, другую, пазначаную годам 1760-м, стварыў Ф. Гальяна. У кожным выпадку ў нашым Нацыянальным музеі — адзіны збор, дзе захоўваюцца творы гэтых майстроў — дзве прадстаўленыя скрыпкі.

**НА ЗДЫМКУ: на скрыпцы італьянскага майстра Д. Маджыні (1596 г.) іграе прафесар Акадэміі музыкі Мікалай БРАЦЕНІКАЎ.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

РЭПРЭСІІ СУПРАЦЬ ДУХАВЕНСТВА Ў 1917—1940 ГАДАХ

## ПАД ЗНАКАМ НАСІЛЛЯ І ТЭРОРУ

З усіх ганенняў, якія выпалі на долю царквы ў гады савецкай улады, самымі бязлітаснымі і жорсткімі былі тэрор і масавыя рэпрэсіі супраць духавенства і вернікаў. Гэта была тая катэгорыя людзей, хто за веру і рэлігійныя перакананні, бадай што, больш за ўсіх зазнаў самавольства і насілле ўлад, на каго дзяржава абрушыла такі шквал нянавісці, якога не ведала гісторыя.

Ужо к пачатку 1922 года ў краіне ў адпаведнасці з судовым прыгаворам былі расстраляны 1 691 святшчэннік, 1 962 манахі, 3 447 манахінь і паслушніц, а без суда — каля 15 тысяч служыцеляў культу.

Немалаважную ролю ў гэтым адыграла прынятая 5 верасня 1918 года Саветам Народных Камісараў "Пастанова аб красным тэроры".

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ




**Першае ўпамінанне аб Гомелі датуецца ў летапісе 1142 годам, вызначаючы такім чынам 855-гадовы ўзрост горада. Але нядаўна вучоныя знайшлі пры раскопках на месцы старажытнага размяшчэння горада рэшткі рэчаў, якія даюць права гаварыць і аб больш чым 1000-гадовым існаванні горада над Сожам.**

**НА ЗДЫМКУ: куток старога Гомеля.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

З НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## «ТО ТАДЭУШ — ЛЕПШЫ СЯБРА — АЖ З-ПАД МАГІЛЁВА...»



У вершаваным апавяданні "Літаратурныя клопаты" (1857) Дунін-Марцінкевіч расказвае пра нялёгкае становішча тагачаснага літаратара, якому ўздумалася пісаць на беларускай — "мужыцкай" — мове. У салонах шчабяталі па-французску, у лепшым выпадку па-польску. На беларускую кнігу модныя шалахвосты, мясцовыя бобчынскія-добчынскія глядзелі як на нонсенс. Але час вымагаў свайго, у перспектыве час працаваў на Беларусь. Сярод асвечаных памешчыкаў былі ўжо такія, што падтрымлівалі беларускі культурны рух. Душой адпачываў і набіраўся новай моцы для жыццёвага змагання наш класік, напрыклад, у маёнтку Шчаўры былога Сенненскага павета (цяпер Крупскі раён). Пра гасцяванне ў Шчаўрах у аматара беларушчыны Юлія Рашкоўскага ён пісаў у тых жа "Літаратурных клопатах":

**Хто жадае уваскрэсіць даўні**
**чын гасцінны,**

**НА ЗДЫМКУ: В. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ. З фатаграфіі 1863 года.**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

**ДА ЧЫТАЧОЎ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» Ў БЕЛАРУСІ!**

**Праводзіцца падпіска на перыядычныя выданні на першую палову 1998 года.**

**На газету "Голас Радзімы" можна падпісацца ва ўсіх паштовых аддзяленнях Беларусі.**

**Індэкс штотыднёвіка "Голас Радзімы" — 63 854.**

**Спадзяемся, што нашы пастаянныя чытачы і прыхільнікі не толькі самі падпішуцца своечасова на "Голас Радзімы", але і параяць іншым зрабіць гэта.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АФІЦЫЙНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ*

### ЭКСПАРТ АПЯРЭДЗІЎ ІМПАРТ

Як паведамілі БЕЛТА з прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 17 лістапада 1997 года А. Лукашэнка прыняў з дакладам першага намесніка Старшыні Савета Міністраў П. Пракаповіча.

П. Пракаповіч далажыў кіраўніку дзяржавы аб знешнеэканамічнай дзейнасці ўрада па выніках работы за 9 месяцаў 1997 года. У прыватнасці, было адзначана, што экспарт айчыннай прадукцыі за 9 месяцаў 1997 года склаў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года 121,8 працэнта, а імпарт замежных тавараў — 120,1 працэнта. Такім чынам, упершыню за апошнія гады рост экспарту апярэджвае рост імпарту. Прэзідэнт станоўча ацаніў работу, праведзеную ўрадам, асабліва адзначыў, што неабходна і ў далейшым павялічваць экспарт беларускіх тавараў, асабліва ў Расійскую Федэрацыю.

На сустрэчы абмяркоўваліся пытанні валютнага рэгулявання ў свеце даручэнняў Прэзідэнта, якія ён даў на рэспубліканскай нарадзе ў г. Магілёве 15 лістапада 1997 года, адзначыла прэс-служба.

Заслухаўшы інфармацыю П. Пракаповіча аб мерах, што распрацоўваюцца ва ўрадзе па выкананню Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 584 ад 12 лістапада 1997 года "Аб зацвярджэнні важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1998 год", А. Лукашэнка адзначыў, што ўрад, Нацыянальны банк павінны няўхільна дабівацца выканання ўсіх зацверджаных параметраў прагнозу, у тым ліку і па ўзроўню інфляцыі.

У ходзе сустрэчы былі разгледжаны і іншыя пытанні эканамічнай палітыкі ўрада.

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

### ДАРОГА ДА АБСЕ

Беларусь выступае за актыўнае, прагматычнае, збалансаванае і шматвектарнае ўзаемадзеянне з усімі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі на аснове безумоўнага захавання норм міжнароднага права і выканання ўзятых на сябе абавязацельстваў.

Аб гэтым заявіла намеснік міністра замежных спраў нашай краіны Ніна Мазай, выступаючы на пленарным пасяджэнні нарады АБСЕ па агляду выканання дзяржавамі — удзельніцамі абавязацельстваў у галіне чалавечага вымярэння, што прайшло ў Варшаве. Яна такс падкрэсліла, што Рэспубліка Беларусь імкнецца да тывізацыі і пашырэння кантактаў з АБСЕ і эфектыўнага супрацоўніцтва з такімі структурамі, як Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека. Ніна Мазай таксама выказала спадзяванне, што формы ўзаемадзеяння нашай краіны з АБСЕ будуць улічваць спецыфіку грамадскіх працэсаў, характэрных для краін з пераходнай эканомікай.

*«НАФТАН» БУДУЕЦЦА*



На наваполацкім вытворчым аб'яднанні "Нафтан" завяршаецца будаўніцтва новай тэхналагічнай установкі "ВТ-1". Яе прадукцыя — гэта сыравінная аснова для вырабу высакаякасных маслаў, што выпускаюцца аб'яднаннем "Нафтан".

Электроннае абсталяванне для ўстаноўкі паставіла японская фірма "Іакагава". Шэф-мантаж гэтага абсталявання ажыццяўляе чэшская фірма "Глітч".

НА ЗДЫМКУ: установка "ВТ-1" на наваполацкім нафтаперапрацоўчым аб'яднанні "Нафтан".

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

### АМЕРЫКАНСКІ ПАСОЛ У ГОМЕЛІ

Пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Даніел Спекхард пабываў з двухдзённым візітам у Гомелі.

Пасля афіцыйнага прыёму ў аблвыканкоме спадар Спекхард і саветнік па культуры Дзіяна Максей наведалі інфармацыйны адукацыйны цэнтр USIS у Беларускім універсітэце транспарту і цэнтр "Духоўнасць" у Доме культуры мясцовай прамысловасці.

Даніел Спекхард наведаў некаторыя прыватызаваныя магазіны, абласны ліцэй, цэнтр "Здароўе", бальніцу і культурна-гістарычны музей у Ветцы.

*АДНАЎЛЕННЕ САВЕЦКАЙ ТРАДЫЦЫІ*

### БРОНЗАВЫ БЮСТ УЛАДЗІМІРА БЯДУЛІ

"Залатым фондам зямлі беларускай" назваў праслаўленага старшыню калгаса "Савецкая Беларусь" Камянецкага раёна Уладзіміра Бядулю першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Русакевіч.

Па даручэнню кіраўніцтва краіны разам са старшынёй Брэсцкага аблвыканкома Уладзімірам Заламаем ён адкрыў 16 лістапада ў Камянцы бронзавы бюст двойчы Героя Сацыялістычнай Працы. Ён выкананы мінскім скульптарам Святланай Гарбуновай і ўстаноўлены ў скверы перад Камянецкім раённым Домам культуры.

Як вядома, рашэнне аб адкрыцці бронзавых бюстаў двойчы Героям Сацыялістычнай Працы на іх радзіме было прынята яшчэ ў савецкія часы. Але з развалам вялікай дзяржавы гэтая традыцыя стала забывацца. І толькі дзякуючы прынятаму 25 лютага гэтага года спецыяльнаму ўказу Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, сталі магчымымі ўрачыстасці ў Камянцы, якія прайшлі 16 лістапада. Яны, па словах Уладзіміра Русакевіча, сталі яшчэ адным пацвярджэннем таго, што сумленныя, заслужаныя працаўнікі нашай краіны заўсёды могуць разлічваць на адэкватную ацэнку дзяржавай іх таленту, намаганняў і нялёгкай працы.

*"Пра палітычную ізаляцыю беларускага парламента пачалі разважаць пасля таго, як апазіцыя прайграла лістападаўскі рэферэндум. Яе лідэры, якіх не падтрымаў народ, не здолелі з годнасцю ўспрыняць паразу, пачалі распаўсюджваць пра нашу дзяржаву адкрытыя плёткі. Прыкладаў таму шмат, не хочацца толькі іх пералічваць. "Дзякуючы" намаганням паклёпнікаў, узніклі і, на жаль, пакуль яшчэ працягваюцца размовы пра ізаляцыю, нелегітымнасць і да таго падобнае. Але мы па-ранейшаму заключаем міжнародныя дагаворы, да нас едуць замежныя дэлегацыі, у тым ліку і парламенцкія. Беларускія заканадаўцы ўдзельнічаюць у раб це розных міжнародных форумаў. З самс пачатку дзейнасці Нацыянальнага сходу не спыняўся працэс ратыфікацыі міждзяржаўных дамоўленасцяў, якія заключаны з Беларуссю. Аднаўлена членства краіны ў Міжпарламенцкім саюзе. Ды і ў Савеце Еўропы яно толькі прыпынена, што, дарэчы, неадноўчы падкрэслівала яго кіраўнік спадарыня Лені Фішэр. Адна як ужо адзначалася, "дзякуючы дапамозе апазіцыі, яе "турботам" пра лепшае жыццё народа, мы вымушаны весці растлумачальную работу сярод нашых замежных калег, даводзіць інфармацыю пра сапраўдную сутнасць перамен, пра адносіны парламента з Прэзідэнтам, урадам. Гэта робіцца рознымі сродкамі: прадастаўленнем дакладных звестак пра сітуацыю ў краіне, шляхам афіцыйных і неафіцыйных сустрэч, перамоў. Магу сказаць, што гэтыя намаганні даюць пэўныя вынікі. У многіх еўрапейскіх дзяржавах разуменне нашага становішча ўжо з'явілася. Дарэчы, спадарыня Лені Фішэр зусім нядаўна выказала думку, што трэба яшчэ раз разгледзець сітуацыю з Беларуссю. Спадзяюся, што ў бліжэйшы час размовы вакол ізаляцыі сціхнуць".*

*Павел ШЫПУК, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі. З інтэрв'ю газеце "Звязда").*

*УЗНАГАРОДА*

### ВАСІЛЮ БЫКАВУ ЎРУЧАНЫ РАСІЙСКІ ОРДЭН

У пасольстве Расійскай Федэрацыі ў Беларусі пісьменніку Васілю Быкаву ўручаны ордэн Дружбы, якім яго ўзнагародзіў расійскі Прэзідэнт Барыс Ельцын за вялікі ўклад у развіццё сучаснай літаратуры. Ганаровую ўзнагароду пісьменніку перадаў пасол Расіі Валерый Лашчынін у прысутнасці міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча.

*З ПРАВІНЦЫІ*



Мсціслаў, раённы цэнтр на Магілёўшчыне. Помнік расійскаму першадрукару Пятру Мсціслаўцу, які паходзіў, як вядома, з нашых краёў.

*У ВОЛЬНЫ ЧАС*



У тэатры "Флора" пры Віцебскім абласным аб'яднанні па пазашкольнай рабоце займаецца 80 дзяцей. У вольны ад вучобы час яны робяць кветкі са скуры, дэкаратыўныя стужкі, капялюшыкі, паясы, упрыгажэнні з саломкі і лазы, складаюць розныя кампазіцыі.

НА ЗДЫМКУ: арыгінальныя касцюмы распрацавалі і дэманструюць Света ПРАКАПОВІЧ, Вольга БАЛУК, Аня ДАРАШЭНКА і Юля СЦЕПАНЕНКА.

*НА ПРАСПЕКЦЕ МАШЭРАВА*



На пачатку года адкрыўся новы фізкультурна-аздараўленчы цэнтр у Мінску па праспекце Машэрава. Гэта унікальны комплекс, дзе ёсць і сауна, і салярый, і басейн з вадзяным каскадам і ўзыходзячым душам, а таксама зала атлетычнай гімнастыкі. Комплекс працуе на працягу ўсяго дня да позняга вечара.

НА ЗДЫМКАХ: фізкультурна-аздараўленчы цэнтр на праспекце Машэрава, 23; пад такім вадаспадам можна атрымаць добры масаж.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

УПЕРШЫНЮ праводзіўся конкурс-агляд "Землекарыстанне высокай культуры земляробства і эфектыўнага выкарыстання зямель". Перамаглі ў ім 37 калгасаў і саўгасаў. Кожная гаспадарка, якая заняла першае месца, атрымала па 308 мільёнаў рублёў на набыццё трактара "Беларусь".

АМАЛЬ што на 16,5 працэнта павялічылася вытворчасць прамысловай прадукцыі ў Беларусі за 10 месяцаў 1997 года ў параўнанні з годам мінулым.

МАСТАЦКІ салон адкрыўся ў Мар'інай Горцы. Першыя яго наведвальнікі былі ўражаны работамі Юрыя Андрыянава, Васіля Высочына, Уладзіслава Васільева — краявідамі Пухаўшчыны, Нарачы, Урала, ювелірнымі вырабамі Пятра Уварава, керамікай Асура Талеразава.

МОТАЛЬ — вядомая на Палессі вёска, адкуль так многа выехала беларусаў у Паўночную Амерыку, адзначыў 575-ю гадавіну з дня свайго нараджэння. Галоўныя ўрачыстасці адбываліся ў Доме культуры мясцовага калгаса "40 год Кастрычніка".

НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ канферэнцыяй, у якой прынялі ўдзел госці з Літвы, Украіны і Расіі, адзначыў сваё 30-годдзе інстытут "Палессегіправодгас". Дзякуючы меліяратарам, у беларускім Палессі на былых балотах створаны 43 новыя саўгасы мясного накірунку.

ПОСПЕХ спадарожнічаў беларускім рэкламным агенцтвам на 7-м Маскоўскім міжнародным фестывалі рэкламы. Два прызавыя месцы атрымалі нашы прадстаўнікі ў прэстыжным конкурсе друкаванай рэкламы, на якім было прадстаўлена больш за 500 работ.

РОЗНІЧНЫ тавараабарот сельскагаспадарчых рынкаў Беларусі сёлета за 9 месяцаў склаў 220 мільярдаў рублёў — павялічыўся ўдвая ў параўнанні з такім жа перыядам у 1996 годзе.

*ПАД АХОВУ ДЗЯРЖАВЫ*

### ПАМЯЦІ ІГНАТА ДАМЕЙКІ

У вёсцы Заполле Лідскага раёна ўзята пад ахову дзяржавы былая сядзіба вядомага беларускага вучонага-асветніка Ігната Дамейкі, які з 1823 па 1831 год жыў тут у свайго дзядзькі. На тэрыторыі сядзібы забаронена цяпер гаспадарчая дзейнасць. Мяркуецца, што з часам будзе праведзена і рэстаўрацыя пабудоў.

## ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА АСВЕТНІКА



**Музей-лабараторыя Францішка Скарыны, створаны пры Гомельскім дзяржаўным універсітэце, які носіць яго імя, папулярызуе сярод студэнтаў і школьнікаў горада працы вялікага асветніка, знаёміць моладзь з яго жыццём і дзейнасцю.**

**НА ЗДЫМКУ: загадчык музея-лабараторыі Канстанцін УСОВІЧ знаёміць з работамі Ф. Скарыны навучэнцаў гомельскай сярэдняй школы № 54.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

Гэтыя гістарычна-вызначальныя падзеі абумовілі пераход ад канфрантацыі да ўзаемадзеяння з заходняй эміграцыяй і ад грэбавання патрэбамі ўсходняй дыяспары да пошукаў шляхоў абароны правоў і законных інтарэсаў суродзічаў на абсягах Саюза, а потым у новых незалежных дзяржавах на яго тэрыторыі.

Праявамі новага стаўлення сталі непасрэдныя кантакты замежных суродзічаў з кіраўніцтвам рэспублікі (што было немагчымым увесь пасляваенны час). Зроблены першыя крокі па супольным вызначэнні з заходняй дыяспарай сфер узаемадзеяння, у тым ліку і ў час знаходжання ў ЗША і Францыі, Вялікабрытаніі дэпутатаў ад апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі па запрашэнню беларускіх арганізацый у гэтых краінах. Пачаўся працэс вяртання на Бацькаўшчыну культурных набыткаў эміграцыі, азнаямлення з імі грамадскасці Беларусі. Намаганнямі грамадскасці ў верасні 1990 года створана і дзейнічае Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Падтрымку ўрада атрымалі яго ініцыятывы агульнанацыянальнага маштабу — Першы сход беларусаў блізкага замежжа (снежань 1992 года) і Першы з'езд беларусаў свету (ліпень 1993 года). Яны далі важкія нізацыйнае аб'яднанне на постсавецкім абшары. Першы з'езд беларусаў свету паскорыў гэтыя працэсы, але падзеі трох апошніх гадоў на радзіме ўскладнілі выжыванне дыяспары, паставілі пад пытанне яе далейшы лёс.

Калі ж гаварыць аб сітуацыі ў цэлым, то яе можна вызначыць як крызісны стан беларускага замежжа. Цяжкасці ў захаванні і пашырэнні беларускай прысутнасці па-за Беларуссю вынікаюць з індыферэнтнасці значнай часткі нашых суродзічаў, іх асіміляцыі, амбіцыйнасці асобных лідэраў свецкай і царкоўнай плыняў беларускага руху за мяжой. Шмат дзе нестае ахвярных, энергічных людзей, якія ўзялі б на свае плечы арганізацыйныя клопаты.

Замежныя суайчыннікі слаба арганізаваны, раз'яднаны па ідэалагічных і палітычных матывах, адносінах да незалежнасці Беларусі. На гэтай падставе адсутнічае паразуменне паміж беларускімі суполкамі ў Маскве, Рызе, Таліне і інш.

Усходняя дыяспара не мае каардынацыйных органаў, якія, напрыклад, дзейнічаюць у Польшчы, Канадзе. Дзеянні суродзічаў не ўзгадняюцца ў межах асобных дзяржаў і паміж імі. Нават колькасна вялікія і кампактныя беларускія асяродкі ўбылога Саюза. Яны сустракаюцца з абыякавасцю ўлады, адсутнасцю службы для вырашэння іх праблем. Не вызначаюцца квоты на перасяленне. Дзяржава не аказвае падтрымкі ў набыцці жылля, працаўладкаванні і інш.

На постсавецкай прасторы дыяспара адчувае вострую патрэбу ў дзяржаўным фінансаванні, пашырэнні беларускай культуры, арганізацыі нацыянальнай асветы ў замежжы. Як падказвае практыка ўсіх нашых суседзяў, неабходны дзяржаўна-грамадскі фонд "Культура беларускага замежжа". Дарэчы, у многіх выпадках патрэбна нават не матэрыяльная дапамога. Так, наша дзяржава магла б паспрыяць атрыманню будынкаў для нацыянальных арганізацый. Іх не маюць беларусы ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, іншых гарадах. Ці паклапаціцца хаця б пра спрыяльны візавы рэжым для суродзічаў.

Беларускія прадстаўніцтвы за мяжой у большасці сваёй не сталі каталізатарамі нацыянальна-культурнага жыцця, апорай для дыяспары. У прэсе ўжо згадвалася пра непаразуменні паміж пасольствам Беларусі і суродзічамі ў Маскве. Варта было б, каб дыпламатычныя прадстаўніцтвы давалі беларус-

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА: ПОГЛЯД НА МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ

кім арганізацыям звесткі пра новых эмігрантаў, прадастаўлялі перасяленцам адрасы нацыянальных суполак, забяспечвалі іх беларускімі кнігамі.

[...] імпульсы для паяднання беларусаў у свеце.

З улікам міжнароднага вопыту пачаўся працэс замацавання правоў замежных суродзічаў у шэрагу заканадаўчых актаў рэспублікі і міжнародных пагадненняў (Закон аб мовах, Закон аб грамадзянстве). Упершыню дзяржава ў міжнародных дагаворах з Польшчай, Расіяй, Украінай, Казахстанам, Кыргызстанам пачала вырашаць пытанні забеспячэння суродзічам магчымасцей у краінах пражывання для свабоднага развіцця роднай мовы, культуры, захавання традыцый, выканання рэлігійных абрадаў. Новыя крокі ў вырашэнні праблем нацыянальнай дыяспары, яе фарміравання ў далейшым — прыняцце дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" (1993 год), закона аб парадку ўезду-выезду (1993 год), стварэнне Дзяржаўнай міграцыйнай службы (1992 год), каардынацыйнага савета па справах беларускай дыяспары пры Савеце Міністраў (1993 год).

### ПРАБЛЕМЫ ЗАХАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ПРЫСУТНАСЦІ Ў ЗАМЕЖНЫХ КРАІНАХ

Беларускія замежныя асяродкі выявілі свой уласны патэнцыял жыццядзейнасці, здолелі закласці добры падмурак для актыўнага нацыянальна-культурнага жыцця, выкарыстоўваць прыклад іншых нацыянальных супольнасцей у краінах пражывання. Такая сувязь з іншымі народамі — беларуская апора ў свеце. Але ці дастатковы гэты патэнцыял, каб захаваць і засведчыць сваю адметнасць, з'яўляцца носьбітамі традыцый і культуры свайго народа, каб найбольш кампактныя асяродкі, найперш на сваіх этнічных землях, набылі нацыянальнае аблічча. Усё гэта залежыць ад вырашэння ўнутраных праблем дыяспары, а яшчэ больш — ад стану нашай дзяржаўнасці, адносін да дыяспары на Бацькаўшчыне яе кіраўніцтва і грамадскасці.

Трэба адзначыць, што сучасная сітуацыя ў беларускім замежжы характарызуецца наступнымі тэндэнцыямі.

Па-першае, затухае беларускае жыццё ў заходняй дыяспары. Адыходзіць пакаленне выгнаннікаў, эмігрантаў другой сусветнай вайны. Пры адсутнасці прытоку новых перасяленцаў (у СССР не было свабоднага ўезду і выезду, адбываўся разрыў паміж пакаленнямі) заходняя дыяспара слаба падрыхтавалася да прыезду новай, сённяшняй эміграцыі з Беларусі, аказання ёй падтрымкі, стварэння адпаведных фондаў. Дэнацыяналізаваныя новыя перасяленцы, як правіла, не ўключаюцца ў нацыянальна-арыентаваныя беларускія асяродкі пасляваеннай эміграцыі, стварэнне на Захадзе ўласных арганізацый. Выключэнне складае заснаванае ў 1993 годзе ў Нью-Йорку Сусветнае згуртаванне яўрэяў Беларусі.

Абнадзейвае павелічэнне колькасці аселай на Захадзе творчай і навуковай нацыянальна-дэмакратычнай інтэлігенцыі, якая ажывіла нацыянальна-культурную працу (Нью-Йорк, Кліўленд, Манрэаль). Адраджаюцца беларускія асяродкі ў Празе, Германіі.

Другая тэндэнцыя ў жыцці дыяспары — самавызначэнне беларусаў, іх арга-

кія асяродкі ў Маскве (70 тысяч), Санкт-Пецярбургу (70 тысяч), Кіеве (30 тысяч), багатыя на інтэлектуальныя сілы, не маюць нацыянальных школ, свайго друку. На постсавецкай прасторы (акрамя Латвіі і Літвы) адсутнічае беларускі перыядычны друк. Існуе пэўная канфесійная раз'яднанасць: узнікаюць непаразуменні паміж некаторымі ўплывовымі прадстаўнікамі праваслаўя і уніяцтва. Не пераадолены падзел аўтакефальнай праваслаўнай царквы, які распаўсюдзіўся і на парафіі. На постсавецкай пр[illegible]оры пашырэнню нацыянальна-кул[illegible]ай дзейнасці замінае бядотны эканамічны стан суайчыннікаў.

Слабая матэрыяльная база нацыянальнай, грамадскай, культурна-асветнай і іншай дзейнасці тлумачыцца вельмі сціплай у большасці краін падтрымкай мясцовай улады, занядбанасцю гэтай справы з б[illegible]ацькаўшчыны, слабым падключэн[illegible]да фінансавання нацыянальных суполак прадпрымальнікаў беларускага паходжання.

Самай жа галоўнай праблемай, якая вызначае існаванне і ўстойлівасць беларускай дыяспары, захаванне яе як часткі незалежнай Беларусі, спад нацыянальна-культурнага адраджэння, неадназначнае стаўленне кіраўнічых органаў Беларусі да замежных суайчыннікаў, у прыватнасці да нацыянальна-акрэсленых арганізацый, якія выказваюцца за незалежную, дэмакратычную Беларусь.

Трэба тут падкрэсліць, што большасць дзяржаў свету дзейсна падтрымліваюць свае дыяспары. У Расіі ажыццяўляецца ўрадавая пастанова "Аб мерах падтрымкі суайчыннікаў у замежжы", створаны спецыяльны фонд "Соотечественник", які аказвае дапамогу рускім перасяленцам на сваю Радзіму. Польская дзяржава за свой кошт адкрывае школы з польскай мовай навучання ў Беларусі, розным чынам спрыяе таварыствам суайчыннікаў на нашай тэрыторыі. А што ж маюць нашы суайчыннікі ад дзяржаўных структур Бацькаўшчыны? Ці разумее цяперашняя кіруючая эліта важнасць дыяспары ў вызначэнні лёсу беларускага народа, ролю Радзімы, этнасу ў яе жыццядзейнасці, што дыяспара з'яўляецца "надзвычай важным працягам нацыі ў свеце, няхай сабе і ў пэўным сэнсе супярэчлівым" (ЛіМ, 23 мая 1997 года). Частка народа, якая адлучана ад асноўнага этнасу, але не страціла памяці пра свае карані, мае патрэбу ў кантактах з Бацькаўшчынай. І гэта натуральнае права, якое з'яўляецца неад'емнай часткай правоў чалавека. Паколькі ў патэнцыяле Айчыны ёсць частка працы эмігрантаў, іх продкаў, дзяржава абавязана прызнаць пэўныя правы дзеля захавання іх інтарэсаў у краіне іх паходжання, гістарычнай Айчыне. Беларусь жа не мае закона аб абароне такіх правоў. Для суродзічаў на постсавецкай прасторы набыццё ці вяртанне беларускага грамадзянства звязана з вялікімі складанасцямі, і прасцей набыць расійскае, што і робяць многія суродзічы ў новых незалежных дзяржавах, парываючы сувязь з уласным этнасам. Шмат цяжкасцей (прапіска, працаўладкаванне) павінны пераадолець перасяленцы ў родныя мясціны з неспакойных рэгіёнаў

Асобна трэба сказаць пра абавязак на дзяржаўным узроўні паруціцца аб адраджэнні нацыянальна-культурнага жыцця на спрадвечных этнічных беларускіх землях, якія аказаліся адарванымі ад метраполіі — гэта часткі Беласточчыны ў Польшчы, Смаленшчыны, Браншчыны, Пскоўшчыны ў Расіі, Віленскага краю ў Літве, Латгаліі ў Латвіі. Навукоўцы дыяспары шукалі вырашэнне гэтай праблемы на міжнародных канферэнцыях "Культура беларускага замежжа". Па іх падліках, на гэтых тэрыторыях жыве больш трэці ўсіх этнічных беларусаў, а "унікальны феномен беларускай этнакультурнай захаванасці на маргінальных землях сёння становіцца бачным знакам велізарнай этнічнай энергіі, якая можа сутнасна дапамагчы ажыццяўленню цуду агульнанацыянальнага адраджэння".

Звернем таксама ўвагу на тое, што ў міждзяржаўных дагаворах, заключаных Рэспублікай Беларусь з Польшчай, Украінай, Расіяй, Румыніяй, Кыргызстанам, Узбекістанам, Казахстанам, прадугледжваецца магчымасць свабоднага выяўлення, захавання і развіцця суайчыннікамі этнічнай, культурнай, моўнай, рэлігійнай самабытнасці без якой-небудзь дыскрымінацыі і ва ўмовах поўнай роўнасці перад законам. Але як рэальна ўлічваюцца інтарэсы беларускай супольнасці пры рэалізацыі міжнародных дагавораў? У 1990 годзе было заключана пагадненне адносна беларускіх школ у Расіі. Аднак ці ёсць там сёння хаця б адна дзяржаўная школа з беларускай мовай навучання? Ці паспрыялі органы дзяржаўнага кіравання Беларусі паяўленню школ з беларускай мовай навучання на Беласточчыне, іншых этнічных землях, якія апынуліся па-за межамі Радзімы? Ці падтрымала дзяржава намаганні беларусаў Польшчы заснаваць у Беластоку Інстытут гісторыі і культуры Беларусі, аднавіць музей Івана Луцкевіча ў Вільні? На жаль, не.

Таму патрэбны больш грунтоўная юрыдычная база і рэальныя механізмы для ажыццяўлення правоў і законных інтарэсаў нашых замежных суайчыннікаў. Іх правы не забяспечаны, напрыклад, у адносінах набыцця ў Беларусі маёмасці, большага спрыяння ў галіне прадпрымальніцтва. Практычна не выкарыстоўваецца патэнцыял дыяспары ў сферы эканомікі, яе дзелавыя, палітычныя, культурныя і іншыя сувязі ў краінах пасялення. Прыцягненню інвестараў з беларускай дыяспары замінаюць супярэчлівае заканадаўства, непрадказальная сістэма падаткаў, нязначная доля прыватнага бізнесу.

Патрэбы часу вымагаюць кансалідацыі нацыі, кардынальна новых маштабаў і форм супрацоўніцтва з дыяспарай, падключэння яе патэнцыялу да вырашэння праблем на Бацькаўшчыне і замацавання ў міжнародным супольніцтве, забеспячэння суродзічам магчымасцей арганізацыі нацыянальнага жыцця ў краінах пражывання, захавання сябе беларусамі і лучнасці з Айчынай.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 44-47**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## ЧАТЫРЫ ГАДЫ ПАСЛЯ СТАРТУ

Чатыры гады таму ў Брэсце ў рамках праекта Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) "Малая прыватызацыя на Беларусі" прайшоў першы ў рэспубліцы аўкцыён.

Нагадаем, што адкрыццё першага праекта МФК на Беларусі стала магчымым пасля таго, як у лістападзе 1992 года наша краіна стала членам гэтай арганізацыі. Беларусь першай з рэспублік былога Саюза ўступіла ў МФК і атрымала права не толькі на долю акцый агульнай сумай больш чым 5 мільёнаў долараў, але і на рознага роду дапамогу карпарацыі. І таму што найбольш дзейсным спосабам пашырэння прыватнага сектара з'яўляецца прыватызацыя, урад рэспублікі звярнуўся ў карпарацыю па дапамогу ў правядзенні гэтага працэсу.

Кансультанты праекта пачалі работу са стварэння аптымальнай мадэлі малой прыватызацыі, якая адпавядала б нормам беларускага заканадаўства. Сёння праект "Малая прыватызацыя на Беларусі" працуе ў дванаццаці гарадах краіны. І калі напачатку, у 1993 годзе, у яго рамках удалося правесці толькі два аўкцыёны, то ў гэтым годзе іх ужо падрыхтавана 70.

Аўкцыён, дарэчы, стаў адным з асноўных спосабаў малой прыватызацыі і здолеў заваяваць давер у прадстаўнікоў дзелавых колаў краіны. У Брэсце, адкуль і стартавала прыватызацыя, за мінулыя чатыры гады з дапамогай МФК прайшло 27 аўкцыёнаў. 77 аб'ектаў было прыватызавана, 18 перададзена ў арэнднае карыстанне. Продаж гэтых 77 аб'ектаў папоўніў бюджэт горада больш чым на 15 мільярдаў рублёў. Грошы знайшлі добрае прымяненне: пайшлі на будаўніцтва школ, тралейбусных ліній, гарадской бальніцы і г. д.

Не сакрэт, што аб'екты, якія выстаўляюцца на продаж, у большасці сваёй маюць нізкую рэнтабельнасць ці наогул стратныя. Запушчаныя яны не толькі "знутры", але і знешне. Таму новыя гаспадары напачатку, як правіла, прыводзяць іх да нармальнага стану. Шэраг адрамантаваных памяшканняў адпавядае сёння вышэйшым еўрапейскім стандартам. Нядаўняя праверка 91 аб'екта з ліку прыватызаваных і здадзеных у арэнду паказала, што капітальна адрамантаванымі былі 34 прадпрыемствы і памяшканні, на 22-х праведзены "касметычны" рамонт, 10 працягваюць рамантавацца сёння. На гэтых аб'ектах створаны 283 новыя працоўныя месцы.

Марнымі аказаліся апасенні, што з прыватызацыяй рэзка ўзрастуць цэны, у працоўных калектывах пройдуць масавыя звальненні і г. д. Жыццё паказала, што ў большасці прыватызаваных прадпрыемстваў павысіліся рэнтабельнасць, тавараабарот і заработная плата работнікаў. А многія прадпрыемствы грамадскага харчавання нават змянілі рэжым работы — сталі працаваць без выхадных, кругласутачна... І прыемна, што да гэтага ўзроўню стаў падцягвацца дзяржаўны сектар.

Вопыт суседніх краін сведчыць, што для дасягнення станоўчых вынікаў малой прыватызацыі надзвычай важнымі з'яўляюцца сціслыя тэрміны яе правядзення. Расцягванне іх сёння дорага абыходзіцца беларускай эканоміцы, а ў канчатковым выніку — і ўсяму насельніцтву.

Што да людзей бізнесу, то ўкладанне грошай у нерухомасць заўсёды было выгаднай справай. Гэта бяспройгрышны варыянт, бо сёння нерухомасць не толькі не падае ў цане, а, наадварот, — расце. І таму любое фінансавае ўліванне ў яе праз пэўны час памножыцца ў некалькі разоў.

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

# ЦІ БЕЛАРУСЬ ТАКАЯ БАГАТАЯ?

Паважаны рэдактар!

У "Голасе Радзімы", як і тут, у ангельскай прэсе, было апублікавана, што дабрачынны Фонд Сораса беларускім урадам быў змушаны перастаць існаваць у Беларусі. Закід Сорасу быў такі, быццам Сорас мяшаўся ва ўнутраную палітыку Беларусі, падтрымліваючы погляды апазіцыі. Мне няясна, чаму ўрад на Сораса так загневаўся.

У кожнай дэмакратычнай краіне апазіцыя да ўрада існуе, і ўрад гэтую апазіцыю не здушае, а, наадварот, звяртае на яе погляды ўвагу. Прыклад: Англія — лейбарысты і кансерватары.

У краінах, дзе апазіцыя ўрадам зліквідаваная, паўстае дыктатура, як прыклады: былы Савецкі Саюз, цяперашні Кітай, Куба, Паўночная Карэя. Ці ж Прэзідэнт і яго ўрад да гэтага імкнуцца, каб стацца на ўзор вышэйўспомненых рэжымаў? У "Daily Telegraph" быў змешчаны артыкул яе маскоўскага карэспандэнта пра тое, што Сорас мае намер укласці 300 мільёнаў долараў у свой фонд, каб памагчы расійскай медыцыне — вылечыць рускіх людзей ад розных хвароб, а пераважна — ад туберкулёзу. Мае Сорас намер дапамагчы і ў правядзенні эканамічных рэформаў у Расіі.

Відаць, Прэзідэнт Расіі Ельцын супраць дабрачыннасці Сораса нічога не мае, а наадварот, за ўсё гэта будзе ўдзячны. Як мне вядома, ні адна краіна былога Савецкага Саюза ад дапамогі Сораса не адмовілася, за выняткам Беларусі.

Можа, Беларусь сталася такой багатай краінай, што не патрабуе ніякае фінансавае помачы з-за граніцы? У лячэнні хаця б ахвяр чарнобыльскай аварыі, адбудовы гістарычных помнікаў і найважнейшае — у адукацыі прышлага пакалення?!

**С. БУДКЕВІЧ.**

Англія.

# ПОГЛЯД НА БЕЛАРУСЬ З РАСІІ

З вялікай цікавасцю прачытаў у "Голасе Радзімы" выступленне дырэктара Нацыянальнага навуковага цэнтра Адама Мальдзіса на міжнароднай канферэнцыі "Суіснаванне і добрасуседскія адносіны — гарантыя бяспекі і стабільнасці ў Еўропе", якая адбылася ў Вільнюсе 4—5 верасня 1997 года.

Ён фрагментарна паказаў гісторыю Беларусі, лёс беларускага народа, яго культуру і адзначыў пры гэтым, што, бадай, няма ў Еўропе народа з такім цяжкім лёсам.

Складана дадаць што-небудзь новае да гэтага змястоўнага выступлення, але я, як беларус па крыві, ліберал па духу, выхаваны на беларускай і рускай культуры, як грамадзянін Расіі, хацеў бы дапоўніць выступленне прафесара А. Мальдзіса наступным: як разглядаюць зараз у Расіі беларускі народ і дзяржаву Беларусь.

Адзначу адразу: амаль ніхто з рускіх не ўспрымае Беларусь як самастойную, незалежную дзяржаву. Але аб гэтым пойдзе гаворка далей.

Найперш закрану праблему, як адчуваюць сябе беларусы ў Расіі. Ні я, ні мае знаёмыя земляки "не испытываем" у нацыянальным плане, скажам так, "притеснения". Адносіны ў калектывах да нас такія ж, як да ўсіх. Дзейнічае прынцып: калі ты добра працуеш, не махлюеш, калі ты камунікабельны, то будзе табе і павага, і пашана.

Калі ж браць аспект адносін паміж Беларуссю і Расіяй, то тут можна вызначыць два напрамкі, якія розняцца толькі па форме, але не па зместу.

Першы напрамак, адзначым умоўна, — "народы", але, як пісаў Пушкін, "глас народа — глас божий". Для яго характэрна спачуванне, неразуменне, здзіўленне.

Ён, г. зн. напрамак, зводзіцца да таго, што беларусы, апрача бацькоў і бульбы, амаль нічога не маюць. Прамысловасць хаця ў значнай ступені, па наших мерках, сучасная, але неканкурэнтаздольная. Сельская гаспадарка больш развітая, чым у Расіі, але не можа забяспечыць нават насельніцтва Беларусі.

Зразумела, што тут ёсць доля праўды, але не ўся праўда. І справа ў наступным: зараз у Расіі капіталізм. Няхай ён, па словах першага намесніка Чарнамырдзіна Барыса Нямцова, "дзікі", але факт застаецца фактам: у Расіі працуе рынак. І расійскага прадпрымальніка, напрыклад, не цікавіць, адкуль прыйшла прамысловая прадукцыя. Ён не захоча слухаць аб славянскім братэве, блізкасці культур, гісторыі і г. д. і д. п. Яму патрэбна, каб яна (прадукцыя) адпавядала сусветным узорам. Капіталіст не дасць нічога: яму патрэбны прыбытак. Гэтак ж датычыцца і энергарэсурсаў.

У нашай Мурманскай вобласці, а яна, як вядома, знаходзіцца ў Запаляр'і, дзе чэрвень яшчэ не лета, а ліпень ужо не лета, многія гарады, не гаворачы пра пасёлкі, іншыя гады знаходзяцца на "грани замерзания", бо няма сродкаў, каб заплаціць за той жа мазут ці газ.

Гаворачы іншымі словамі — бясплатны сыр бывае то[illegible] ў мышалоўцы. За ўсё трэ[illegible]а-ціць: ці ты жывеш у Расіі, ці ў Беларусі... І плаціць па сусветных цэнах.

Ёсць у Расіі значная ўплывовая праслойка, якая стаіць на пазіцыях, што беларусы — г[illegible]ыя ж самыя рускія. Яны лічаць, што беларусы як нацыя — штучная з'ява ў гісторыі. Вядомы рускі публіцыст Аляксандр Кротаў у часопісе "Молодая гвардия" № 9 за 1997 год піша, што "народ Белоруссии — это коренные русские". Не больш і не менш! І каб ён быў адзін, то яшчэ куды не ішло, але такіх, як Кротаў, у Расіі "сплошь и рядом".

Гэта нешта цікавае ў сусветнай гісторыі — ліквідуецца нацыя "одним росчерком пера". Як тут не ўспомніць словы таварыша Сталіна: "Есть человек — есть проблема, нет человека — нет проблемы...".

Увогуле ў Расіі могуць быць розныя партыі, палітычныя плыні, якія знаходзяцца паміж сабой, скажам так, "в недружественных отношениях", але калі стаіць пытанне аб Беларусі, тут яны аднадушныя: "Белоруссия — это своеобразная часть России".

У Расіі вельмі цэняць многае ў дзейнасці Прэзідэнта Лукашэнкі. Асабліва гэта звязана з шырокім укараненнем рускай мовы ў рэспубліцы. Пішуць: можа здарыцца, што да ўлады прыйдзе іншая фігура замест Лукашэнкі, і лёс рускай мовы тады будзе падобны, як на Украіне,.. а там недалёка да сапраўднай незалежнасці.

Адначасова трэба адзначыць, што многія з расіян лічаць: сапраўднага саюза паміж Беларуссю і Расіяй не будзе. Тут маецца на ўвазе, бадай, наступнае: Прэзідэнт Беларусі не жадае быць расійскім губернатарам.

Увогуле трэба адзначыць, што Расія вельмі ўдала дзейнічае па прынцыпу "кнута и пряника". У Маскве надавалі вялікае значэнне саюзу як сродку націску на "непокорную сестру", маецца на ўвазе Украіна, якая не вытрымае прэсінгу і вернецца ў брацкае лона. На гэты непрыкрыты націск Украіна адказала ўзмацненнем заходняга вектара сваёй знешняй палітыкі. Але ў хуткім часе ў белакаменнай зразумелі беспэрспектыўнасць такога падыходу. Як вядома, Расія і Украіна падпісалі поўнамаштабны дагавор у маі гэтага года.

Гэтым актам Масква паказала Мінску, што на Беларусі "свет клином не сошелся". Па ўсёй увазе, Кіеў становіцца для Масквы "предпочтительнее", чым Мінск, але будучыня пакажа. У Расіі добра ведаюць магутны прамысловы і сельскагаспадарчы патэнцыял Украіны і добра памятаюць словы вядомага царскага генерала, потым вядомага дзеяча белага руху Антона Дзянікіна, што без Украіны Расія ніколі не будзе вялікай дзяржавай. Адзначу, што па валавому ўнутранаму прадукту Расія займае 14 месца ў сусветным эканамічным "табели о рангах", а гэта вельмі нізкі паказчык для такой краіны, як Расія.

Я не Павел Глоба, які можа прадбачыць будучыню, але, зыходзячы з многіх фактаў, можна прагназіраваць будучыню Беларусі. Яна становіцца суб'ектам Расійскай Федэрацыі і перацерпіць многія змяненні, якія закрануць усё дзяржаўнае, культурнае жыццё. Так, будуць ліквідаваны вобласці, якіх налічваецца шэсць. Ды шмат што зменіцца. Скажам так: Беларусь зноў стане накштальт "Северо-Западного края".

Другі шлях — гэта шлях незалежнасці. І Беларусь з цягам часу стане (а тут ёсць усе ўмовы) развітой еўрапейскай краінай, якая павінна знаходзіцца ў лепшых адносінах з многімі дзяржавамі, і ў першую чаргу з Расіяй.

І меў рацыю Аляксандр Лукашэнка, калі сказаў на сустрэчы з дэлегацыяй Мурманскай вобласці, якая знаходзілася ў Мінску, што Беларусь і Расія моцна звязаны каранямі, якіх нельга разбурыць. Трэцяга шляху Беларусі не дадзена, бо саюз паміж дзвюма рэспублікамі — гэта нонсенс, бо нельга быць незалежным і знаходзіцца ў адной па сутнасці дзяржаве.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск,
Мурманская вобласць.

***На працягу шэрагу нумароў на старонках нашай газеты друкаваўся артыкул Юрыя Акудовіча "Зачараванне Нарачы". Прыемна, што шчырасць, захопленасць, улюбёнасць у нарачанскі край аўтара натаак зрабілі добрае ўражанне на чытачоў "Голасу Радзімы". Некаторыя з іх даслалі свае водгукі на публікацыю, за што рэдакцыя і аўтар вельмі ім удзячныя.***

Праз рэдакцыю "Голасу Радзімы" перадаю прывітанне з Варшавы, а таксама віншаванне аўтару заметак "Зачараванне Нарачы". Я ўпэўнены: усё, што было сказана ва ўступным рэдакцыйным слове пра Юрыя Акудовіча, — не пусты гук, бо ён сапраўды шчыра лічыць самым цудоўным месцам на Зямлі Нарач і нарачанскі край. Апісанне, зробленае пером Ю. Акудовіча, так спадабалася мне, што ўзнікла жаданне перакласці гэтыя нататкі з беларускай мовы на польскую і прапанаваць іх якому-небудзь беластоцкаму ці варшаўскаму выданню. Я з'яўляюся варшаўскім сябрам Беларусі, неадноўчы гасцяваў у Мінску, дзе маю шмат добрых знаёмых.

**З павагай**

**Анджэй КЭМПФІ.**

Варшава.

* * *

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

У газеце № 36 у артыкуле "Зачараванне Нарачы" я прачытала вельмі цікавы раздзел пра маю мясцовасць — Кабыльнікі. Мясцовасць называлася Кабыльнік (адзіночны лік).

Са старым Мядзелем звязана легенда-быль: у землеўладальніка Кошчыца паміралі дзеці. Нарадзіўся сын. Бацька наняў карміцельку. Дзіця расло. Госці вярталіся з палявання. Нянька купала дзіця. Паглядзела ў акно, а тым часам дзіця захлынулася і памерла. Разлаваны пан загадаў жывой замураваць няньку. На новых могілках каля дарогі на Кабыльнікі была цэментавая пляцоўка прыкладна 3х4 метры. Мама нам расказвала, што там жывой была замуравана нянька. Потым сумленне мучыла пана, ён пайшоў пешшу ў Рым спавядацца. Пасля вяртання пабудаваў манастыр і касцёл. У касцёле вельмі тоўстыя сцены, з манастыра вяла патаемная лесвіца на балконы, адкуль манахі бачылі алтар і маліліся. З людзьмі свецкімі яны не сустракаліся.

У падзямеллях касцёла былі пахаванні, дзе хавалі членаў сям'і — уладароў маёнтка Стары Мядзель. Мая цётка Хелена Руткоўска з нейкай дэлегацыяй глядзела гэтыя падзямеллі.

Прыкладна ў васьмідзесятыя гады, калі ў касцёле з'явіліся вернікі, ксёндз айцец Аўгусцін Квяткоўскі з прыхаджанамі зрабілі перапахаванне астанкаў.

У Новым Мядзелі быў драўляны касцёл з вельмі прыгожай столлю — блакітнай, з зоркамі. Касцёл спалілі адразу ж пасля ўступлення Саветаў у верасні 1939 года. Ніхто з прадстаўнікоў мясцовай улады не шукаў вінаватых.

Мама расказвала, што замак на востраве пабудавала Бона, жонка караля Зігмунта Старога. Уваход у замак быў тайны. Шведам паказала ўваход карова. Была на беразе, пайшла па мастку, за ёю — салдаты.

Калі вас цікавяць памешчыцкія маёнткі Мядзель, Лынтупы, Паставы і іншыя, магу прыслаць ксеракопіі. Выйшла кніга том 4-ты.

Газета ва[illegible]кавая, толькі беларуская мова для мяне ўжо цяжкая, няма размо[illegible] практыкі.

**З прывітаннем Марыя РУТКОЎСКА-КУПРАН.**

Польшча.

# ДА БЕЛАРУСАЎ У ПРЭЙЛІ

У канцы кастрычніка гэтага года па запрашэнню беларусаў з Прэйлі (раённы цэнтр у Латгаліі) у гэтым гарадку гасцявалі консул Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Валерый Сысоеў, старшыня беларускага таварыства "Уздым" Станіслаў Валодзька, настаўніца беларускай нядзельнай школы Тацццяна Бучэль, а таксама ансамбль "Купалінка" гэтага ж таварыства (мастацкі кіраўнік Яна Шчамялёва).

Споўніўся год, як у Прэйлях утварылася Балта-славянскае таварыства і мясцовыя беларусы, якія ўваходзяць у склад гэтага таварыства, адзначалі свой першы юбілей і святкавалі адкрыццё Цэнтра славянскіх культур.

Госці з Даўгаўпілса з цікавасцю паглядзелі канцэрт прэйльскіх творчых калектываў і паказвалі, на што здольныя самі.

Прысутных цёпла вітаў мэр горада Прэйлі спадар Іваноў. Даўгаўпілскія беларусы таксама мелі слова, вітаючы гаспадароў, выказвалі пажаданне, каб беларусы ў Прэйлях утварылі сваю самастойную суполку, ды не забывалі БСТ, якое дало ім добры пачатак.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

Латвія, Даўгаўпілс.

*КЛУБ «ЭКОЛАГ»*



**У Брылёўскай сярэдняй школе Гомельскага раёна дзейнічае клуб "Эколаг". Ён аб'ядноўвае школьнікаў практычна ўсіх узростаў, пачынаючы ад пяцікласнікаў, якія высаджваюць кветкі і дрэвы на школьным двары. Старшакласнікі ж ствараюць "Чырвоны сшытак" мясцовай флоры і фауны, вывучаюць уплыў бліжэйшых вытворчасцей на навакольнае асяроддзе, ажыццяўляюць прыродаахоўную дзейнасць. Школьнікі склалі і экалагічны пашпарт роднага краю.**

**НА ЗДЫМКУ: кіраўнік клуба "Эколаг" Галіна КРАЎЧАНКА і яе памочнікі Аляксандр КАЦУБА і Наташа РЫБАЛЬЧАНКА.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# «ТО ТАДЭУШ — ЛЕПШЫ СЯБРА — АЖ З-ПАД МАГІЛЁВА»

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

**Хай на Беларусь паедзе,**
**стрэнуць там, як сына.**
**Затрапеча тваё сэрца,**
**адпачнеш душою,**
**Як я быў прыняты шчыра**
**Юлія сям'ёю!**
**Вось ягоная сядзіба, у пакой**
**ступаю,**
**Ён па-польску, па-братэрску**
**мяне абдымае.**
**Малады ён і багаты, а не ганарысты,**
**Прадстаўляе мне суседзяў**
**ветла, урачыста.**
**То з-пад Лепеля прыехаў**
**Павел з Пацейкова,**
**То Тадэуш — лепшы сябра —**
**аж з-пад Магілёва...**

Абарвём на гэтым ніштаваты пералік ганаровых гасцей, што сабраліся-з'ехаліся ў Шчаўрах. Пералік гэты пісьменнікам не прыдуманы, мае пад сабой цалкам рэальную аснову. Хоць не ўсе імёны даследчыкі належным чынам расшыфравалі. Але ёсць пэўныя зрухі, сёе-тое навукоўцам ужо вядома. "Тадэуш з-пад Магілёва" — гэта, несумненна, Тадэвуш Чудоўскі, адметная постаць культурна-грамадскага жыцця Беларусі гэтага перыяду. Ёсць дакументальнае сведчанне прыяцельскіх стасункаў Чудоўскага з Дуніным-Марцінкевічам. У 1858 годзе, аддаючы ў цэнзуру сваю новую вершаваную аповесць "Быліцы, расказы Навума", пісьменнік зрабіў прысвячэнне: "Вяльможнаму Тадэвушу Чудоўскаму ў знак глыбокай пашаны гэты слабы твор ахвяруе аўтар". У адпаведнасці з правіламі, той, са свайго боку, напісаў на цэнзурным рукапісе: "На ахвяраваную мне дэдыкацыю твора згаджаюся і з падзякаю прымаю. Тадэвуш Чудоўскі". Вось вам і нітачка — Чудоўскі — Дунін-Марцінкевіч. Ужо гэтага было б дастаткова, каб зацікавіцца, хто такі Чудоўскі. Чаму менавіта яму вырашыў прысвяціць Дунін-Марцінкевіч сваю аповесць? І не проста чарговую аповесць, а арыгінальны, можна сказаць, этапны беларускі твор. Я доўга прыглядаўся да гэтай постаці. Адкрылася шмат цікавага, неардынарнага, драматычнага, чым хацелася б сёння падзяліцца з чытачом.

Тадэвуш Чудоўскі паходзіў з вядомай шляхецкай сям'і ўсходняй Беларусі. Ён згадваецца ў мемуарах вядомага ўдзельніка паўстання 1863 года Якуба Гейштара. У каментарыях да мемуараў называецца год нараджэння Чудоўскага — 1818, праўда, пад пытальнікам. Ужо без агаворак распачынае жыццяпіс Чудоўскага 1818 годам аўтарытэтны "Польскі слоўнік біяграфічны". Між тым матэрыялы мінскага гістарычнага архіва дазваляюць істотна ўдакладніць гэтую зыходную дату. Захавалася метрыка, з якой відаць, што ён нарадзіўся 5 ліпеня 1824 года. Хрышчоны двойчы — у Вародзькаве (вадой) і Маляцічах, дзе абрад хросту быў давершаны. Усё гэта цяпер вёскі Крычаўскага раёна. Пры хрышчэнні атрымаў тры імі — Тадэвуш, Рыгор і рэдкае — Удальрык. Бацька — чэрыкаўскі павятовы маршалак Тадэвуш Міхайлавіч Чудоўскі, маці Юстына Іванаўна Галынская (таксама нішто сабе слынны род). Канкрэтнае месца нараджэння ў метрыцы не названа. З ужо згаданых каментарыяў да мемуараў Гейштара даведваемся, што гэта бацькоўскі маёнтак Нізкі.

Вучыўся наш герой у Віленскім дваранскім інстытуце (своеасаблівы прывілеяваны ліцэй) разам з Гейштарам. Закончыў інстытут у 1841 годзе. Праз год паступіў на юрфак Пецярбургскага універсітэта, які пакінуў у 1846 годзе, адужаўшы толькі тры курсы. Разам з ім у сталіцы вучыліся Гейштар, Зыгмунт Серакоўскі, Аляксандр Аскерка, Уладзімір Спасовіч і многія іншыя вядомыя дзеячы. У біяграфіі Гейштара адзначана, што ён выбраў Пецярбургскі універсітэт пад уплывам крыху старэйшага Чудоўскага, які, выбраўшыся ў паўночную сталіцу раней, з берагоў Нявы "цудоўнымі фарбамі маляваў тамтэйшае жыццё моладзі..."

У 1848 годзе бачым Чудоўскага на радзіме — ён прызначаецца ганаровым наглядчыкам вучылішчаў Мсціслаўскага павета, садзейнічае поступу асветы і адукацыі. Потым пяць-шэсць гадоў (1850—1855) спраўна служыў Феміздзе, быў чэрыкаўскім павятовым суддзёй, пакінуў гэтую клопатную пасаду з-за хваробы.

Яшчэ адзін архіўны дакумент фіксуе падзею ў жыцці нашага героя: 4 ліпеня 1856 года ў Чарэйскім касцёле Тадэвуш Чудоўскі з маёнтка Краснае Вародзькаўскага прыхода ўзяў шлюб з паненкай Антанінай Свяцкай з маёнтка Горы Чарэйскага прыхода. Маладому 29 гадоў (так у дакуменце, у сапраўднасці амаль — без аднаго дня — 32), яго абранніцы дваццаць.

У 1857 годзе Т. Чудоўскі зноў прызначаецца ганаровым наглядчыкам Мсціслаўскага дваранскага павятовага вучылішча з абавязацельствам уносіць штогод на патрэбы гэтай установы па 150 рублёў.

Да гэтага часу адносяцца лісты Чудоўскага ў Вільню Адаму Кіркору. З Кіркорам наш герой на сяброўскай назе, звяртаецца да яго па-прыяцельску "найдаражэйшы Адаме". Пісьмо ад 10 лютага 1857 года напісана ў Дубасне Мсціслаўскага павета па дарозе ў Маскву і Піцер.

"Заўтра выязджаю праз Маскву ў Пецярбург з Крычава, а цяпер пішу з дома майго швагра... ужо з дарогі, адсюль праз тры гадзіны еду ў Нізкі да брата Міхала, з Нізкоў заўтра рана выязджаю ў Крычаў, а адтуль ранішняй поштай па шашы ў Маскву". Вось так ездзілі тады нашы паны, чыгунак на Беларусі яшчэ не было. Масква ж з Піцерам была ўжо звязана чыгуначнай калеінай.

Перад гэтым Кіркор прасіў Чудоўскага падшукаць мясцовых карэспандэнтаў для "Тэкі віленскай", якую пачаў выдаваць. У сваім пісьме Чудоўскі ў якасці магчымага карэспандэнта ў Магілёве назваў ксяндза Кеўліча (мабыць, гэта той самы Кеўліч, які пакінуў прыхільны запіс у вядомым альбоме беларускага пісьменніка і асветніка Вярыгі-Дарэўскага). Далей Чудоўскі працягваў: "Прызначаючы гадавое ўзнагароджанне Кеўлічу, май таксама на ўвазе, што маім стараннем будзеш мець значную колькасць бясплатных артыкулаў: а менавіта аповесцяў і сельскагаспадарчых матэрыялаў, цудоўна апрацаваных Ігнатам Цеханавецкім, у якім кожны прызнае неабыякі талент і немалы запас ведаў, статыстычныя матэрыялы Аляксандра Цеханоўскага, ад якога спадзяюся таксама мець артыкулы; з паэзіі Бржастоўскага і Барэйшы і многіх іншых, у поспеху якіх не сумняваюся". Як бачым, Чудоўскі выдатна ведаў, трымаў навідавоку ўсіх творчых людзей свайго краю, а іх было нямала, толькі не ўсе імёны захаваліся належным чынам у гісторыі, у нашай недасканалай памяці.

Кіркор быў зацікаўлены таксама мець карэспандэнта ў Горках, дзе вакол земляробчага інстытута склаўся адметны асяродак культурна-грамадскага жыцця. На гэта Чудоўскі адпісаў так: "Паколькі сам не магу быць зараз у Горках для падшукання карэспандэнта, пасылаю туды дваіх па гэтай справе, а менавіта аднаго вельмі прыстойнага маладога чалавека Яна Мянжынскага, які сёлета скончыў Горы-Горацкі інстытут, і свайго прыяцеля Януша Касакоўскага, які з самых Горак напіша табе пра вынікі сваіх захадаў і пра перагаворы, калі знойдзе каго на карэспандэнта, у чым, аднак, не сумняваюся, паколькі з цяперашніх вучняў ёсць двое вельмі здольных, а пра трэцяга таксама чуў, што з незвычайным талентам паэтычным піша па-беларуску".

На жаль, імя гэтага беларускага паэта з тагачасных Горак Чудоўскі не называе, і яно пакуль што астаецца для нас загадкай.

"Калі Касакоўскі і Мянжынскі зробяць кепскі выбар карэспандэнта, — працягваў Чудоўскі, — або калі б зусім нічога не зрабілі, ручаюся, што, вярнуўшыся з Пецярбурга, найцудоўна ўладжу там тваю справу, паколькі маю там знаёмых і Горкі знаходзяцца ад майго маёнтка Краснае за 45 вёрстаў".

Чудоўскі прасіў таксама прыслаць рэкамендацыйнае пісьмо ў Пецярбург да свайго цёзкі Булгарына (той самы знакаміты Фадзей Булгарын, высмеяны ў "Тарасе на Парнасе") — ён спадзяваўся, што ўплывовы зямляк паможа ў нялёгкіх сталічных клопатах.

Паслаў Чудоўскі Кіркору таксама вельмі знаёмы нам адрас: "Юлию Серафимовичу Рошковскому в у. г. [уездный город] Борисов для отправления в имение Щавры". Туды Кіркор павінен быў пасылаць чарговыя выпускі спеўніка, якія выходзілі ў яго віленскай друкарні.

Што да Горак, Чудоўскі сапраўды быў там частым госцем. У прыватнасці, удзельнічаў у сельскагаспадарчых з'ездах, якія там час ад часу збіраліся. Але яго стасункі з Горкамі гэтым далёка не абмяжоўваліся. Колішні студэнт, а потым апантаны краязнавец Ф. Сурын піша ў сваіх "Горацкіх успамінах": "Неадступным сябрам нашым на працягу ўсёй бытнасці маёй ва ўстанове быў адзін з блізкіх памешчыкаў р. Tadeusz С." Вядома ж, размова зноў пра Тадэвуша Чудоўскага. Мемуарыст малюе яго вялікім эксцэнтрыкам і ідэалістам, своеасаблівым Дон Кіхотам, які свята верыў у сваю адметную місію і нярэдка трапляў праз гэта ў камічныя сітуацыі.

Між іншым, гэты "ідэаліст" прычыніўся да адкрыцця ў Горках тайнай народнай школы, дзе навучанне вялося па беларускіх кнігах, друкаваных лацінкай (відаць, меліся на ўвазе кнігі Дуніна-Марцінкевіча).

"Ідэаліст" Чудоўскі, як мог, падтрымліваў студэнтаў, здольную моладзь таксама і матэрыяльна, не шкадаваў на гэта ўласных сродкаў. Напрыклад, вядома, што за яго кошт вучыўся ў інстытуце зямляк з незаможнай шляхты Станіслаў Віскоўскі, які ў 1863 годзе быў адным з галоўных завадатараў рэвалюцыйнага студэнцтва і, вядома ж, не так сабе атрымаў прызначэнне на пасаду паўстанцкага начальніка горада Горак.

Як і Дунін-Марцінкевіч, як і ўсе тагачасныя перадавыя людзі, усім сэрцам вітаў наш герой эпоху сялянскіх рэформаў, паводле слоў пляменніка, усяляк дбаў пра дабрабыт народа, фактычна яшчэ да маніфеста ад 19 лютага 1861 года даў свабоду сваім прыгонным.

Вялікі ўдзел прыняў ён у паўстанні Кастуся Каліноўскага, на сцягах якога былі накрэслены лозунгі свабоды, роўнасці, незалежнасці.

У замалёўцы журналіста С. Акрэйца (Арліцкага) "Куток паўстання 1863 года" (Исторический вестник, 1902, т. 90) Чудоўскі выступае пад імем Чудзіноўскага, а Магілёўская губерня называецца Дняпроўскай. Там гаворыцца, што Чудзіноўскі ўвосень 1862 года паехаў у Варшаву і вярнуўся адтуль з намінацыяй (прызначэннем) на званне камісара Дняпроўскага ваяводства. Характарыстыку Чудзіноўскаму-Чудоўскаму аўтар дае не вельмі паважлівую, хутчэй з'едлівую — "бахвал, декламатор, промотавшийся барин, гордый своим родом и женившийся денег ради на глуповатой, болезненной шляхтянке, дочери некоего Свадского, темной личности, нажившейся ростовщичеством и содержанием почтовых станций". Магчыма, тут схоплены і нейкія рэальныя рысы Чудоўскага, але нядобразычлівы тон Акрэйца шмат у чым тлумачыцца яго рэнегацтвам: у 1863 годзе аўтар замалёўкі быў паўстанцам, а потым зусім адышоў ад ідэалаў маладосці.

Гісторыкам вядома, што камісарам Магілёўшчыны, прычым камісарам вельмі энергічным, самаахвярным быў доктар Міхал Аскерка. Так што Акрэйц, мабыць, недакладна вызначыў месца нашага героя ў структурах паўстанцкай арганізацыі. Тым не менш роля Чудоўскага была вельмі значнай, абсягі яго канспіратыўных кантактаў надзвычай шырокія.

Дакументы раскрываюць, напрыклад, цесную сувязь Чудоўскага з буйнейшым кіраўніком паўстання ў Літве-Беларусі З. Серакоўскім. Яны сябры-прыяцелі яшчэ са студэнцкіх часоў. Удзельнік паўстання З. Міткевіч на допытах паказваў: "При поездке моей во второй половине марта 1863 г. в С.-Петербург помещик Чериковского и Оршанского уездов Фаддей Чудовский поручил мне отвезти туда к капитану генерального штаба Сераковскому письмо, причем просил в случае выезда Сераковского в Вильно, как он это предполагал, съездить с этим письмом туда, объяснив, что найду Сераковского в гостинице Нишковского". Хоць, паводле Міткевіча, размова ішла адносна грашовай прэтэнзіі Чудоўскага да князёў Радзівілаў (падобная справа нібыта вялася ў сенаце), наўрад ці можна сумнявацца, што ў паказаннях фіксуюцца вельмі важныя канспіратыўныя сувязі. З Вільні Міткевіч прывёз Чудоўскаму ад Серакоўскага "2 пакета, из которых один был весьма наполнен". "Пакеты Сераковского я передал Чудовскому 6 апреля,.." — паведаміў Міткевіч. Ёсць усе падставы думаць, што гэта рэвалюцыйныя паперы — інструкцыі, пракламацыі, мандаты. Да таго ж, выходзіць, Чудоўскі загадзя ведаў пра будучы прыезд Серакоўскага з Пецярбурга ў Вільню. Гэта была, можна сказаць, самая важная таямніца канспіратараў: Серакоўскі ехаў, каб прыняць на сябе вайсковае кіраўніцтва паўстаннем.

Вельмі інфармаваны генерал Ратч, які па свежых слядах напісаў спецыяльны нарыс пра падзеі 1863 года на Магілёўшчыне, лічыў Чудоўскага ці не галоўным арганізатарам магілёўскага паўстання. Паводле слоў генерала-гісторыка, Чудоўскі раздаваў намінацыі на рэвалюцыйныя пасады па паветах. У прыватнасці, ад яго ў сакавіку 1863 года атрымаў сваю намінацыю на начальніка Горак Віскоўскі.

Агульнае ўзброенае выступленне на



Магілёўшчыне намячалася на 23—24 красавіка (на Юр'я). Вайсковым начальнікам (ваяводам) Магілёўшчыны быў прызначаны бліжэйшы паплечнік Каліноўскага Людвік Звяждоўскі (псеўданім Тапор), які служыў тады ў Маскве, у штабе грэнадзёрскага корпуса. Туды Звяждоўскаму высылаецца ваяводская пячатка "як атрыбут яго ўлады". Перш чым з'явіцца на Магілёўшчыне, Звяждоўскі зрабіў паездку ў Пецярбург, дзе завербаваў некалькіх здольных рэвалюцыйна настроеных афіцэраў для кіраўніцтва баявымі групамі паўстанцаў. У цэнтры ўсіх гэтых падрыхтоўчых намаганняў быў і герой нашага нарыса, яму памагалі ўжо згаданыя Міткевіч і Віскоўскі.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Тадэвуш ЧУДОЎСКІ. Фота з мемуараў Я. Гейштара, выдадзеных у 1913 годзе; мандат паўстанцкага начальніка горада Горак С. Віскоўскага (знойдзены турэмшчыкамі ў яго кашулі).**

**(Заканчэнне будзе).**



28

Приказъ народнаго правительства о назначении Станислава на Военскаго начальникомъ г. Горы-Горецъ

К.П. 307.

Rząd narodowy
Wydział zarządu Prow: Litwy
mianuje obywatela [illegible]
naczelnikiem miasta Hory-Horki
Wilno 13 Marca 1863

УНІКАЛЬНАЕ ПОЛЕ ЯНА ЧЫКВІНА

# «...ШЧАСЛІВЫ Ў КАРЭННЯХ ДОЛІ...», ці ПАРТРЭТ ПАЭТА, СТВОРАНЫ З ІМ САМІМ

*"Відавочна, што трэба жыць там, дзе жывеш, дзе ты ёсць, — выйграеш больш".*

**М. Сяднёў "Масеева кніга".**

Гэтыя допісы пра Паэта. Але, каб гаварыць пра яго, трэба згадаць яшчэ багата чаго: краіну і літаратуру, час і лёс, паэзію і жыццё. Усё гэта, а яшчэ шмат іншага і будзе складаць прадмет нашай гаворкі.

...Ян Чыквін — грамадзянін Польшчы і беларус па паходжанню. Прафесар Варшаўскага універсітэта і тонкі знаўца рускай паэзіі, наш сучаснік і ўжо немалады чалавек. А найперш — Паэт. Паэзія Я. Чыквіна адкрывалася нашаму чытачу не адразу, як бы сарамліва. Між тым менавіта яго творчасць ад пачатку з'яўляецца адным з тых звенняў, якімі беларуская паэзія лучыцца з сучасным агульнаеўрапейскім літаратурным працэсам. Асоба гэтага сур'ёзнага творцы асабліва не заангажавана ў нашай крытыцы і літаратуразнаўстве, таму, здаецца, размова, якую мы прапануем чытачу, дапаможа стварыць больш поўнае ўяўленне пра арыгінальную індывідуальнасць Яна Чыквіна...

Напачатку было ліставанне з панам Янам. Яно зусім натуральна вылілася ў патрэбу больш блізкага знаёмства. І я з хваляваннем рушыў да яго ў Польшчу, тым больш, што з маёй Гародні гэта зрабіць не складана. У тыя часы паэт жыў "затворнікам" у невялікім мястэчку Бельск-Падляскі, дзе працаваў над карэктурай сваёй кнігі "Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа". Пан Ян сустракаў мяне каля брамкі бацькоўскай хаты. Гэтая хата таксама заслугоўвае чытацкага позірку, бо па-свойму характарызуе асобу гаспадара (як, зрэшты, кожнае жыллё). Звычайны драўляны дом, пабудаваны паўстагоддзя таму, прыслухоўваецца да Сусвету звычайнай спадарожнікавай антэнай. На вуліцы, дзе "піраміды падхарошаных дамоў патрыцыяў" выраслі вышэй дрэў, гэта сапраўды нармальная з'ява. У самой хаце старая печкахлёўка суседнічае з прайгравальнікам кампактдыскаў, на кухні — рэпрадукцыі Пікасо, дарэчы, карціны — па ўсіх сценах і, канешне, мноства кніг. Так і ў асобе Яна Чыквіна спакровіліся шмат якія рысы і асаблівасці гэтага складанага краю. Спаконвечная беларуская разважлівасць і польская шляхетнасць, еўрапейская цывілізаванасць і ўсходнеславянскі сентыменталізм, сялянская кансерватыўнасць і урбаністычная цяга да камфорту, вопыт сталасці і рамантыка маладосці...

Калі гаварыць пра адметнасць творчасці Я. Чыквіна, то галоўнай яе рысай я назваў бы натуральнасць, арганічнасць. Адсутнасць штучнасці — вось аснова жыцця. Мастацтва Я. Чыквіна, як ужо гаварылася, і для беларускай, і для еўрапейскай паэзіі, для мінулых эпох і сённяшніх імгненняў, самых розных філасофій і будзённых праблем. Яно на сумежжы, як палёт птушкі — на сумежжы зямлі і неба, як верш — на сумежжы паэта і чытача.

З усведамленнем чалавечай годнасці пан Ян разважаў пра свае "карані": "Радаслоўная такіх людзей, як я, у шырокім сэнсе не вядзецца. Таму ў сувязі з маім сялянскім паходжаннем цяжка шукаць вытокі. Але па лініі маці захоўваецца памяць, што прабабка была іншай нацыянальнасці: немка. Толькі нашто шукаць, калі больш-менш вядома, што людзі былі простыя. І з гэтага нічога не вынікае: ні выдатнае, ні адмоўнае. Калі мая творчасць выклікае цікавасць, то трэба і пачынаць ад мяне. Я маю чатыры сястры і брата, але ніхто ў хаце да гэтай пары не бярэ пад увагу тое, што я пішу. Ні ў адной сястры няма маіх вершаў. Лічу, што гэта здаровая сітуацыя. У маім характары ёсць такое пачуццё, якое выказваецца як "сарамлівасць". Раней не дапускаў ніякай размовы пра сваю паэзію. І з гэтага боку меў поўны камфорт у хаце.

Памятаю, што пачаў пісаць вершы ў момант хваробы. Недзе тады пачалося. Маёй першай кніжкай, якая зрабіла незвычайнае ўражанне, была "Po jagody" М. Канапніцкай. Спрабаваў пісаць. Памятаю, як у 5-м класе быў урок малявання. Настаўніца задала на дом творчую работу, і я "настрачыў" вялікі верш на польскай мове. Ранейшыя былі выключна для мяне самога, а гэты — на публіку. Таму, мабыць, запомніўся. Пачынаў друкавацца пад рознымі псеўданімамі, усё з-за той жа сарамлівасці".

...Адчуваючы самакаштоўнасць кожнай асобы, верачы ў неабсяжнасць магчымасцей інтэлекту і творчасці, паэт між тым застаецца чалавекам веруючым, атаясамліваючы з ідэяй Бога найвышэйшы розум, што непадуладны рацыянальнаму пазнанню. Гэтае ў нечым рэнесанснае светабачанне жывіць паэзію Я. Чыквіна, нягледзячы на ўсе гістарычныя перамены. Хацелася спытаць пра ўзаемадзеянне грамадска-палітычнага часу і творчасці. Паэт дэбютаваў у канцы 50-х, але за сорак гадоў вершы яго не састарэлі, бо не былі надзённа-аднадзённымі. Гэта нараджае пэўныя адносіны да сваіх твораў. Ян Чыквін прызнаўся:

"Думаю, што я задаволены і старымі сваімі вершамі. Хоць гэта задаволенасць іншая, чымсьці новымі ці тымі, над якімі працуецца. У мяне няма адчування, што я ахвотна адрокся б ад сваіх тэкстаў. А можа гэта таму, што, чытаючы нават свае ранейшыя вершы, я ўношу ў іх іншы сэнс. Я прачытваю іх інакш, і яны мяне таксама ў нейкай ступені задавальняюць. Гэтым я хачу сказаць, што яны, вершы, на маю думку, вытрымліваюць тыя патрабаванні, якія я ўжо зараз стаўлю да творчасці. Я максіміліст эстэтычны... На маю думку, няма ў мяне шмат вершаў, якія былі б напісаны на адну тэму. Мне здаецца, што кожны з іх іншы і па-свойму добры".

...Няшмат знойдзецца творцаў, якія маглі б з пэўнай аб'ектыўнасцю так гаварыць. Але Я. Чыквін мае на гэта падставы. У ідэйна-мастацкім плане яго паэзія была заўсёды наднадзённаю, надсучаснаю. Яго хвалявалі глабальныя праблемы чалавечага існавання, безумоўна, пераасэнсаваныя ім як індывідуальнасцю з канкрэтным гістарычным і геаграфічным жыццём. Спосаб выяўлення свету праз творчасць паэт не зрабіў універсальным, яго паэтычная думка сягае толькі ў тыя абсягі чалавечага духу і свядомасці, якія іншым чынам непазнавальныя. "Паэзія валодае сваім унікальным полем", — неаднаразова паўтараў мой субяседнік падчас размовы. Такі падыход у пэўнай ступені тлумачыць той факт, што творчасць Я. Чыквіна амаль цалкам — "чыстая лірыка". Вось якія думкі на гэты конт у майстра:

"Я трошкі пісаў прозу напачатку, але потым не вяртаўся. Часам хацелася, але адкладвалася заўсёды. Каб сесці за прозу, трэба мець свежую галаву і вольны час і пэўна яшчэ нешта, што не названа. Гэта трэба мець нейкую ментальнасць, каб жыць жыццём іншых людзей. А займацца паэзіяй — элітарны занятак, які, відаць, спалучаны з маёй псіхікай. Мне лепш выказвацца ў паэзіі. А проза... Проза — перакладальная, а паэзія — не. Паэзію можна прачытаць і пераэжыць, а на іншы спосаб — неперакладальная. Па гэтым пазнаецца вялікасць паэта. Так здарылася з творчасцю Фета. Ён сучасны і сёння... Я лічу, што тыя жанры, якія ідуць у эпіку, для нашага часу нехарактэрныя. Тут патрэбна доўгая гаворка. Сучасная філасофія развіваецца ў напрамку поўнага разнявалення. І лірычны верш найбольш адпавядае гэтаму, бо ён не мае межаў. Гэта ўцёкі ад замкнутасці".

Упэўнены, што чытач адчуў вялікую ўпэўненасць чалавека, інтэлігента, у сваёй значнасці, у каштоўнасці сваёй асобы. Гэта ўпэўненасць у сваёй абранас[illegible]авінна быць у творцы, бо інакш як бы стваралі[illegible]оская камедыя" ці "Сікстынская капэла". Была яна ў Фета і Міцкевіча, Багдановіча і Купалы. І патрэбна вялікая воля, каб вытрымаць у сабе гэтую дадзенасць, застацца верным сабе, творчасці, красе.

**Мой скрутны час і час эпохі**
**Не супадаю[illegible]ані трохі.**
**Размінаюц[illegible] Гмін з Сенатам,**
**Як дулі, сов[illegible]ць сабе розных**
**партыяў плакаты.**

. . .

**Гарыць мая свяча. Ад скразняку-прайдохі,**
**Што дзьме і хоча здзьмуць**
**яе жывое цельца,**
**Шчэ болей раз'яраецца агонь, і выгіб**
**полымя, здаецца,**
**Адным сваім святлом змагаецца**
**з пачварным воблікам эпохі.**

("Выгіб полымя").

У творчым набытку Яна Чыквіна дзесятак паэтычных зборнікаў, уключаючы перакладныя і білінгвальныя. У адным з лістоў да аўтара паэт заўважыў: "У творчасці колькасць не пераходзіць у якасць. Ёсць шмат людзей, у якіх тысячы вершаў, але — святы Божа! — там няма паэзіі".

Гэты тонкі крытык і знаўца вельмі ашчадны і патрабавальны да паэтычнага слова. Паміж нараджэннем верша і яго прэзентацыяй чытачу нярэдка праходзіць немалы час. У гэтым ёсць як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя прычыны. Паэт імкнецца да завершанасці, таму прызнаецца, што заўсёды цяжка выбраць асобныя творы для якой-небудзь нізкі. Надаючы такую ўвагу дасканаласці мастацтва ў нашым недасканалым свеце, паэт сцвярджае адвечную веру ў чалавечнасць. Таму на пытанне аб патрэбнасці чытача для пісьменніка, Ян Чыквін удумліва разважаў:

"Праўда недзе пасярэдзіне. У працэсе — не, не патрэбен. А потым, канешне, ёсць нейкае задавальненне. Я маю ўнутраную патрэбу да пісання вершаў, як бы змагаюся з нечым. Я ведаю, што чагосьці такога няма ў прыродзе, што зараз з'явіцца. І яно з'яўляецца не ў чыстым выглядзе. Таму важна і майстэрства творцы. А потым ужо,.. але гэта не найважнейшае. Чалавечая асабовасць заўсёды шырэйшая і глыбейшая, чым творчасць. Тое, што ўвогуле мастак скампанаваў, ужо абнародаванае, набывае сваё быццё. Кожны яго можа інтэрпрэтаваць па-свойму: можа смяяцца ці маліцца..."

Я. Чыквін — кіраўнік літаб'яднання "Белавежа", якое яднае беларускіх літаратараў на тэрыторыі Польшчы. Ніколі ім не было лёгка, час быў заўсёды неспрыяльным. Але яны жылі і жывуць там, дзе ёсць. Гэта пазіцыя, гэта, калі хочаце, ментальнасць. Як грамадзяне, яны — нашы суседзі. Як творцы, яны — проста "нашы". Як беларусы, яны — гэта мы самі. І як не ўслухацца ў словы паэта і не пачуць сябе.

**Як доўга нам суджана, Божа, маўчаць!**
**Дык можа хоць ныня адпусціш,**
**Святы Божа, беларусам.**

**Анатоль РАМАНЧУК.**

Бельск — Гродна. 1997.

УЗНАГАРОДЖАНЫ ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ







**Дыпломамі еўрапейскага і сусветнага ўзроўню ўзнагароджаны юныя мастачкі дзіцячай народнай выяўленчай студыі Віцебскага абласнога пазашкольнага аб'яднання, якую ўзначальвае педагог Ларыса Здор.**

**НА ЗДЫМКАХ: дыпломамі выставы краін Еўропы "Манмартр-97" адзначаны работы выхаванкі студыі Александрыны ІВАНОВАЙ; кіраўнік студыі, дыпламантка еўрапейскай выставы "Манмартр-97" Ларыса ЗДОР і яе выхаванкі адбіраюць работы да чарговай выставы; выхаванка студыі Насця ШЫЛКО за ўдзел у 9-й Міжнароднай выставе-біенале дзіцячага малюнка прэфектуры Канагава (Японія) узнагароджана сярэбраным медалём і дыпломам. Імя юнай мастачкі ўнесена ў Сусветны каталог, які расказвае аб удзельніках выставы.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

ПАЭТЫЧНЫЯ МАЦЕРЫКІ ПЯТРА ГАРЭЦКАГА

# ПАД СІ[illegible]М НЕБАМ БЕЛАРУСІ

Беларусь, беларуская літаратура — гэта мацерыкі ўкраінскага паэта Пятра Гарэцкага. Нарадзіўся Пятро Ігнатавіч у Данбасе. За плячыма — паўвекавое літарату[illegible]е жыццё. На творчым рахунку [illegible]аль два дзесяткі вершаваных [illegible]іг. Адзін са зборнікаў выдадзены па-беларуску ў Мінску. Падрыхтавана да друку другая беларуская кніга Пятра Гарэцкага. Ляжыць рукапіс у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Ды сёння час такі, што, мякка кажучы, цяжка выдаць кніжку сціпламу творцу. Жывому цяжка. Патрэбна, каб і грошы былі, каб і кулакамі, плячыма мог чалавек расштурхаць астатніх. Што казаць пра ўвагу да пайшоўшых з жыцця. Таму і рады быў паэт, што адно ўжо вершы яго друкаваліся ў газетах і часопісах. А перакладчыкі ў вершаў Пятра Гарэцкага — вядомыя беларускія паэты Уладзімір Паўлаў, Генадзь Бураўкін, Казімір Камейша.

**На беразе Беразіны**
**Стаю каля вярбы зачахлай,**
**Апаленай у дні вайны,**
**Калі ўсё порахам тут пахла.**

**Успамінаю зноў дымы,**
**Што поўнілі гаркотай грудзі.**
**І ў летні дзень, і ў час зімы —**
**Іх чорны след мне сніцца будзе.**

Гэтыя радкі — з верша Пятра Гарэцкага "Ля Беразіны" (пераклаў з украінскай Генадзь Бураўкін). Відаць, дзве краіны — радзімыя старонкі спляліся тут для паэта разам. Два гаротныя ваенныя пякучыя лёсы "ўладна клічуць" судакрануцца з болем, агульным для ўсіх, з болем, межаў у якога няма і не можа быць.

Пятро Гарэцкі — шчымлівы, багаты на мастацкія сродкі лірык. І калі пытаўся некалі ва ўкраінскага майстра слова пра яго школу, пра яго настаўнікаў, то, расказваючы пра ўрокі ў класічнай украінскай літаратуры, не мінаў паэт згадаць і беларускіх творцаў — з вялікай павагай гаварыў Пятро Ігнатавіч пра народнага паэта Беларусі Максіма Танка. У свой час Гарэцкі перакладаў яго вершы на ўкраінскую мову, ліставаўся са старэйшым беларускім сябрам. Знаёміўся, канешне ж, і з перакладчыцкім вопытам Максіма Танка. Слынны паэт неаднойчы звяртаўся і да вершаў украінскіх паэтаў. Максім Танк — перакладчык твораў Міколы Бажана, Расціслава Братуня, Платона Воранько, Савы Галаванiўскага, Галіны Кірпы, Міколы Нагнібеды, Марыі Прыгары, Максіма Рыльскага, Уладзіміра Сасюры. Зайздросная ўвага такога слыннага творцы да паэзіі братняга суседняга народа! Чытаючы Танка, Пятро Гарэцкі, магчыма, зноў і зноў звяртаўся да "ўкраінскага" верша народнага паэта Беларусі "Мікола Нагнібеда":

**Бо і сёння я ўпэўнены**
**Ў гэтым: калі б,**
**Як у самыя грозныя**
**Дні навальніцы,**

**Мы з ім разам былі б,**
**Мы з ім разам ішлі б,**
**Нават смерць**
**Не адважылася б падступіцца.**

Танкаўскае перажыванне за ўкраінскага сябра па-свойму асэнсоўваў — пасля страты Максіма Танка — і Пятро Гарэцкі. Магчыма, з часам перажыванні і выліліся б у вершаваныя радкі. І тады пабольшала б яшчэ на адну старонку беларуска-ўкраінскае літаратурнае пабрацімства. Але не паспеў Пятро Гарэцкі. Старонка — адметная, шчырая, пранізлівая — і вось гэты верш "Прызнанне" Пятра Гарэцкага (з украінскай мовы пераклаў Казімір Камейша):

**Мой свет не падуладны скрусе,**
**Няхай не рвецца часу ніць.**
**Пад сінім небам Беларусі**
**Душа не можа не любіць;**

**Яе шляхоў і пушчаў спеўных,**
**Садоў і ціхіх азярын,**
**І воблакаў самотна пенных**
**У пуншы маладой зары.**

**Блакіт вачэй і жораў ззянне**
**У хвалях цешацца адных,**
**І толькі песні і каханню**
**Заўжды сугучныя яны.**

**Жыву я тут і ганаруся,**
**Што маю гэта шчасце — жыць.**
**Пад сінім небам Беларусі,**
**Дзе сэрцу нельга не любіць.**

Вось так і жыў, і працаваў у беларускай літаратуры, з беларускай літаратурай украінскі паэт Пятро Гарэцкі. "Пад сінім небам Беларусі..."

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# «СТО РАРЫТЭТАЎ З КАЛЕКЦЫЙ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЕЯ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Найцікавейшыя абразы беларускай школы XVII—XX стагоддзяў упрыгожваюць выставачную залу. Але найперш зрок імкнецца да іконы "Успенне" ("Прачыстая") з мястэчка Бешанковічы Віцебскай вобласці. Гэта, можна сказаць, хрэстаматыйны твор, але на выставе іконе так удала знойдзена месца, што з яе без перашкоды льецца ззянне на тых, хто стаіць перад ёю.

Цікавыя экспанаты і сваімі лёсамі. У асобнай зале змешчаны Мінскі скарб. Ён утрымлівае 547 сярэбраных прадметаў, большую частку якіх складаюць манеты, а таксама ўзнагароды рускай арміі часоў першай сусветнай вайны. На выставу трапілі пабытавыя рэчы скарбу (куфэрак, талеркі, чаркі, кубкі) маскоўскіх, мінскіх, пецярбургскіх, заходнееўрапейскіх майстроў XVIII—XIX стагоддзяў, сапраўдныя творы ювелірнага мастацтва. Як жа апынулася гэтая каштоўнасць у музеі? Вельмі проста. Мінчане добра ведаюць пагорак і спуск, які вядзе ад Пішчалаўскага замка ("Валадаркі") і радзільнага дому да пажарнага дэпо, што цяпер у рэканструкцыі. Дык вось летам 1988 года на гэтым пагорку вяліся будаўнічыя работы, і рабочы-экскаватаршчык зачапіў каўшом каваную скрыню са скарбам. Яна была здадзена ў міліцыю. Той, хто знайшоў скарб, атрымаў належную яму па закону суму грошай. А скарб выраршылі адправіць у Маскву. Але ён, дзякаваць Богу, застаўся ў нас і цяпер экспануецца на выставе.

Побач з абразамі раскладзена цудоўная плашчаніца — покрыў, культавы прадмет, ён сведчыць не толькі пра адмысловае майстэрства вышыўкі шаўковымі і сярэбранымі ніткамі, але і пра майстэрства сучаснай рэстаўрацыі. Знойдзеная супрацоўнікамі музея ў часе экспедыцыі па збору матэрыялаў у вёсцы Дзітрыевічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці ў 1979 годзе, плашчаніца ўяўляла сабою забруджаную, вартую жалю анучу, пасечаную, у дзірках. Закансерваваная, каб разбуральныя працэсы не знішчылі твор дашчэнту, плашчаніца захоўвалася больш за дзесяць гадоў у музейных фондах. Нарэшце прыспеў час, і трохгадовая, дзень у дзень, карпатлівая праца вярнула да жыцця твор мастацтва. Як не ўспомніць тут біблейскія прыпавесці пра ўваскросшага Лазара?!

Скрыпкаю ж Маджыні, згаданаю раней, гуляліся як забаўкаю вясковыя дзеці. І ў гэтым выпадку музейныя супрацоўнікі выступілі ў ролі анёлаў-ахоўнікаў бясцэннага твора.

Тут варта сказаць колькі слоў яшчэ пра адну выставу, якая, так бы мовіць, суправаджае "Сто рарытэтаў...". На чатырнаццаці планшэтах, аб'яднаных назваю "Яны стваралі музей,.." змешчаныя надзвычай каларытныя фотаздымкі 50-х — пачатку 80-х гадоў. Дзякуючы ім, ёсць магчымасць паглядзець у твары людзям — супрацоўнікам музея першай паваеннай генерацыі, руплівасцю якіх і сабрана большасць экспанатаў. Твары маладыя і вясёлыя, сур'ёзныя і здзіўленыя... Супрацоўнікі ў дарозе, супрацоўнікі каля экспанатаў, рабочыя моманты... Навуковыя супрацоўнікі збіраюць бульбу і нарыхтоўваюць "веточны корм" — нішто ў жыцці грамадства не прайшло міма музейнага супрацоўніка, у тым ліку і "бітвы за ўраджай". На фотавыставе — старонкі рознапланавага музейнага жыцця. Апошняя старонка ў гэтым шэрагу з назваю "Вуснамі дзіцяці..." змяшчае выказванні сённяшніх маладых наведвальнікаў музея. Вось некаторыя меркаванні 10—11-гадовых вучняў сярэдніх школ Мінска — так, як яны прамовіліся, без рэдагавання: "Мне спадабалася самая першая экскурсія і іншыя экскурсіі. Вельмі добра расказваюць на беларускай мове..."; "Я думаю, лепш хадзіць у музей, чым вучыцца па кнігах. У музеі ўсё лепш расказваюць..."; "Я і раней хадзіла з татам у музей. Але гатова яшчэ хоць 100 разоў хадзіць у гэты музей..."; "Я вам жадаю ўсяго добрага, каб супрацоўнікі музея яшчэ больш знаходзілі каштоўных і старажытных рэчы..."



А цяпер вернемся да пачатку. Да якой жа даты прымеркавана гэтая шыкоўная выстава? На афішы пазначана: да 40-годдзя музея. Але тлумачальны тэкст да выставы дае больш дакладную інфармацыю. Сёлета Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі адзначае 40-годдзе з часу стварэння Арганізацыйнай групы і 30-годдзе з дня адкрыцця першай паваеннай экспазіцыі. Але гісторыя музея значна даўжэйшая. Дакументы і факты сведчаць, што музей дзяржаўнага значэння, які адлюстроўваў гістарычнае мінулае, этнаграфію і мастацтва Беларусі, быў створаны ў 1919 годзе. Праіснаваў ён нядоўга ў сувязі з падзеямі савецка-польскай вайны 1919—1920 гадоў. Яго зборы практычна цалкам былі вывезены ў Польшчу. Музей аднавіў сваю дзейнасць у 1922 годзе, атрымаўшы назоў Беларускі дзяржаўны музей (БДМ). Ён спазнаў росквіт сваёй дзейнасці ў гадах 1927—1929, калі ім кіраваў выдатны дзеяч і вучоны Вацлаў Ластоўскі, а ў штат навукоўцаў уваходзілі археолаг А. Ляўданскі, палеограф А. Бурдзейка, этнограф М. Красінскі.

Ад пачатку Вялікай Айчыннай вайны музей прыпыніў сваю дзейнасць. Яго калекцыі былі разрабаваны і знішчаны больш як на 90 працэнтаў. Што ж было потым? Яшчэ ў часе ваеннага ліхалецця ў Мінску быў закладзены музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. І вось пры ім у ..55 годзе быў створаны аддзел гісторы... ..ыроды. У снежні 1956 года Савет Міністраў БССР выдаў распараджэнне аб стварэнні пры Міністэрстве культуры БССР Арганізацыйнай групы Беларускага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея. Якасць самастойнай арганізацыі, г. зн. музея, Арганізацыйная група набыла ў 1957 годзе. І толькі праз дзесяць гадоў, 2 лістапада 1967 года, музей адкрыў сваю першую экспазіцыю і прыняў першых наведвальнікаў.

Для Дзяржаўнага музея БССР, такое імя ён атрымаў, будавалася адмысловае памяшканне. Але ў 1965 годзе ўсё перамянілася, і гэты будынак быў аддадзены музею гісторыі вайны, дзе ён месціцца і цяпер. На старым сваім месцы, па вуліцы К. Маркса, 12, у былым будынку Дзяржаўнага земельнага банка, помніку архітэктуры пачатку XX стагоддзя, застаецца і музей — наш юбіляр, які ад 1992 года набыў статус Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Фонд яго налічвае больш за 350 тысяч памятак мінуўшчыны.

Зважаючы на вышэйсказанае, можна зрабіць высонову, што галоўны гістарычны музей нашае краіны значна старэйшы за афіцыйны ўзрост. Гэты буйнейшы збор ёсць правамоцным пераемнікам лепшых традыцый, закладзеных яго папярэднікамі ад 1919 і 1922 гадоў. І таму зусім не лішнім у афішы выставы, прысвечанай 40-годдзю музея, было б яшчэ адно слова — "адраджэнне", каб святкаваць 40-годдзе адраджэння музея.

Хоць свае адмысловыя даты музей сустракае не ў лепшыя часы, як і ўся сфера нацыянальнай культуры, але тысячы і тысячы людзей не аднаго ўжо пакалення маюць у сэрцы сантымент і пяшчоту да яго муроў і да яго скарбаў.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**



**НА ЗДЫМКАХ:** знаёмства з экспазіцыяй; адзін з экспанатаў — сярэбранае дэкаратыўнае блюда XVIII стагоддзя.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

*ФІЛАКАРТЫЯ*

# ГІСТОРЫЯ НА ПАШТОЎЦЫ

Звычайная паштоўка — спадарожнік нашага жыцця. Дастаткова ўспомніць, колькі мы прывозім паштовак з розных паездак, колькі іх высылаем сваім знаёмым у святочныя дні. Вялікая пазнавальная, эстэтычная і культурна-выхаваўчая каштоўнасць паштовак не магла не звярнуць на сябе ўвагу калекцыянераў.

Філакартыя — так называецца сфера калекцыяніравання паштовак.

У пачатку XX стагоддзя ў Расіі вялікімі тыражамі пачалі выпускаць паштоўкі з відамі гарадоў. Звычайна гэта былі чорна-белыя (рэдка каляровыя) фатаграфіі вуліц, цэркваў, касцёлаў, мастоў, помнікаў, вакзалаў і г. д. Сярод гэтых паштовак многа выданняў прысвечана гарадам Беларусі — Мінску, Брэсту, Гродна, Віцебску, Магілёву, Гомелю. Радзей сустракаюцца паштоўкі з відамі малых гарадоў таго часу — Оршы, Бабруйска, Баранавіч, Лунінца, Полацка. Сёння ўсе гэтыя паштоўкі ўяўляюць каштоўнасць не толькі для калекцыянераў, але і для гісторыкаў, рэстаўратараў, архітэктараў, музейных работнікаў. І ўсё таму, што відавыя паштоўкі часам з'яўляюцца адзінай, унікальнай крыніцай, на якіх адлюстраваны віды дарэвалюцыйных ці даваенных гарадоў.

Часцей за ўсё ў калекцыях філакартыстаў сустракаюцца паштоўкі з відамі гарадоў Беларусі да 1917 года, выдадзеныя прадпрыемствамі Расіі. Радзей у калекцыях — паштоўкі з адлюстраваннем гарадоў Беларусі, выпушчаныя ў гады першай сусветнай вайны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі для патрэб палявой пошты. Калекцыянерам невядома, колькі такіх паштовак было выдадзена, але, супастаўляючы розныя даныя, можна сказаць, што такіх паштовак больш за 400 відаў. Гэта — віды Мінска, Пінска, Брэст-Літоўска, Кобрына, Гродна, Ліды, а таксама выпускі аб жыцці і быце беларусаў у той час.

Мая невялікая калекцыя паштовак аб Беларусі нядаўна папоўнілася дзвюма цікавымі выпускамі

На адной з паштовак паказаны Мсціслаўскі касцёл кармелітаў, помнік архітэктуры барока. Касцёл быў закладзены ў 1614 годзе. Але гэтую дату аспрэчваюць, таму што ёсць звесткі, быццам касцёл быў закладзены ў 1637 годзе. У 1746—1750 гады касцёл быў рэканструяваны архітэктарам І. Глаўбіцам. Часткова перарабляўся касцёл і ў XIX стагоддзі, ён вядомы далёка за межамі рэспублікі сваім роспісам. Усяго ў касцёле захавалася каля 20 фрэсак-кампазіцый. На адной з іх паказаны партрэт фундатара касцёла, на іншых — сюжэты на гістарычныя тэмы. Цікавая фрэска, якая паказвае панараму каменных дамоў старажытнага горада. Усе гэтыя фрэскі былі створаны ў XVIII стагоддзі.






На паштоўцы не пазначана месца выдання і час, але, мяркуючы па паштовым штэмпелі, рэнж за 1914 год. На паштоўцы надпіс: "З дабрачынныя мэтай". Паштоўкі з відамі малых гарадоў выпускаліся рэдка. Гэтая ж была выпушчана з пэўнай мэтай і, мяркуючы па месцы адпраўкі, распаўсюджвалася ў далёкім ад Мсціслава — Пецярбургу. Галоўным распаўсюджвальнікам гэтых паштовак было Мсціслаўскае дабрачыннае таварыства, пячатка якога пастаўлена на адваротным баку паштоўкі. На жаль, невядомы тыя дабрачынныя мэты, для якіх была выпушчана гэтая паштоўка.

Другая паштоўка, набытая для калекцыі, прысвечана старажытнаму Навагрудку. Год выдання яе таксама не пазначаны, а выдаў яе М. Дзеляцікі. На паштоўцы паказана цэнтральная гандлёвая плошча горада з адлюстраваннем архітэктуры класіцызму — гандлёвымі радамі, пабудаванымі ў 1812 годзе. Фатаграфія базарнай плошчы зроблена з высокай кропкі — на ёй відаць дамы, што акаляюць плошчу, і руіны старажытнага Навагрудскага замка — помніка абарончага дойлідства XIV—XVI стагоддзяў. У першым томе кароткай энцыклапедыі "Беларуская ССР" (старонка 436) змешчана фатаграфія гандлёвай плошчы ў Навагрудку з указаннем, што гэта фатаграфія 30-х гадоў. Від плошчы на паштоўцы, выдадзенай у 10-я гады XX стагоддзя, і від плошчы на фота 30-х гадоў — аднолькавы.

**Леў КОЛАСАЎ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1672.
Падпісана да друку 24.11.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.